# Голас Радзімы

№ 11 (2101)
16 сакавіка 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




Творчы стыль Міколы Селешчука адразу пазнаецца. Ён адзін з самых эфектных і інтрыгуючых майстроў у сучасным беларускім мастацтве.

З першых самастойных крокаў, пасля заканчэння ў 1976 годзе Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, і па сённяшні дзень ён не перастае здзіўляць і радаваць прыхільнікаў сваёй творчасці ў галіне жывапісу, станковай і кніжнай графікі.

Новае і эксперыментальнае да нядаўняга часу з цяжкасцю знаходзіла прызнанне ў нашым мастацкім жыцці. Мікола Селяшчук здолеў хутка набраць вышыню ў сваёй творчасці, прымусіў горача загаварыць, заспрачацца аб сабе самых розных скептыкаў і адданых аматараў.

Кожны твор, што, здаецца, лёгка і хутка выходзіць з-пад яго рукі, вабіць сваёй нечаканасцю, навізной, вытанчанасцю, віртуознасцю і высокім густам. Ад яго работ заўсёды застаецца надзвычайнае эмацыянальнае ўражанне. У неверагоднай вобразнай метафары і алегорыі мастак сплятае грацыёзныя выявы чароўных дзяўчын з дзівоснымі ўзорамі роднай флоры і фауны, фальклорныя, этнаграфічныя сімвалы, помнікі старадаўняй архітэктуры — з ультрасучаснымі формамі і вобразамі, фантастычнае — з рэальным, сур'ёзнае — з жартоўным, дэкаратыўныя жывапісныя плямы — з графічнымі росчыркамі, фотарэалістычныя дэталі — з абстрактнымі.

Невычэрпная фантазія мастака абуджае свежыя думкі, неардынарныя асацыяцыі, звязаныя з багаццем і разнастайнасцю навакольнага свету, загадкавасцю ўнутранага свету чалавека з самымі патаемнымі струнамі душы.

Хто бачыў хоць аднойчы работы М. Селешчука, напрыклад, «Памяці Максіма Багдановіча», «Стары парк», «Канец сезона туманаў» і іншыя, не застанецца абыякавым да творчасці мастака і будзе чакаць новых карцін.

Фота М. ЖЫЛІНСКАГА.

КАСМІЧНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

## ЗАВЕРШАНЫ ПАЛЁТ

Завершаны палёт аўтаматычнага транспартнага карабля «Прагрэс-40», выведзенага на каляземную арбіту 10 лютага 1989 года.

5 сакавіка па камандах з Цэнтра кіравання была ўключана рухальная ўстаноўка грузавога карабля. У выніку тармажэння ён перайшоў на траекторыю спуску, увайшоў у шчыльныя слаі атмасферы і спыніў існаванне.

Касмічная вахта Аляксандра Волкава, Сяргея Крыкалёва і Валерыя Палякова працягваецца.

Самаадчуванне касманаўтаў добрае. Палёт пілатуемага комплексу «Мір» праходзіць нармальна.

У САВЕЦЕ МІНІСТРАЎ БССР

## ЧАРНОБЫЛЬ: ПРАГНОЗЫ І РЭАЛЬНАСЦЬ

У Савеце Міністраў БССР адбылася нарада па пытаннях радыяцыйнай абстаноўкі ў Гомельскай і Магілёўскай абласцях. Неабходнасць яе правядзення была выклікана тым, што ў выніку супярэчлівых выступленняў у прэсе вучоных, пісьменнікаў, журналістаў, якія па-рознаму ацэньваюць цяжкасць вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, у насельніцтва пацярпеўшых раёнаў і ў асобных абласных, раённых кіраўнікоў узніклі сумненні ў правільнасці канцэпцыі бяспечнага пражывання на тэрыторыях, што падвергліся радыеактыўнаму забруджванню.

Якая ж рэальнасць, ці адпавядае яна прагнозам спецыялістаў? Што яшчэ неабходна зрабіць, каб забяспечыць поўную гарантыю здароўя людзей? Калі будзе створана дзяржаўная праграма ліквідацыі вынікаў аварыі? Аб гэтым і ішла прынцыповая і вострая размова на нарадзе, якую вёў Старшыня Савета Міністраў БССР М. Кавалёў.

У рабоце нарады ўдзельнічалі: старшыня Дзяржкамгідрамета СССР Ю. Ізраэль, віцэ-прэзідэнт Акадэміі медыцынскіх навук СССР, дырэктар Інстытута біяфізікі Міністэрства аховы здароўя СССР Л. Ільін, кіраўнікі рэспублікі, Гомельскай і Магілёўскай абласцей, вялікая група рэспубліканскіх і саюзных экспертаў.

ВІЗІТЫ

## ЗНАХОДЖАННЕ ДЭЛЕГАЦЫІ ГДР

У Мінску знаходзілася дэлегацыя гандлёваг прадстаўніцтва ГДР у СССР на чале з кіраўніко гэтага ведамства П. Шмітам.

Госці былі праінфармаваны аб задачах, якія стаяць перад народнагаспадарчым комплексам, працоўнымі калектывамі Беларусі ў сувязі з пераходам на рэгіянальны гаспадарчы разлік.

Адбылася гутарка ў Гандлёва-прамысловай палаце рэспублікі, у ходзе якой абмеркаваны пытанні далейшага развіцця эканамічных сувязей БССР і ГДР, новых форм супрацоўніцтва.

Канкрэтныя праблемы ўмацавання ўзаемавыгадных кантактаў знаходзіліся ў цэнтры ўвагі ў час сустрэч дэлегацыі з намеснікам Старшыні Савета Міністраў БССР В. Крыцкім і генеральным дырэктарам рэспубліканскага знешнегандлёвага аб'яднання «Беларусзамежгандаль» В. Андрушыным.

У праграме знаходжання дэлегацыі гандлёвага прадстаўніцтва ГДР — наведанне Мінскага аўтазавода і галаўнога прадпрыемства аб'яднання «Атлант», сустрэчы ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі.

НА МІЖНАРОДНАЙ АРЭНЕ

## У ЛЕЙПЦЫГ НА КІРМАШ

Больш за 5 тысяч экспанатаў, з якіх каля ста з'яўляюцца ўзорамі сацыялістычнай эканамічнай інтэграцыі, прадстаўлены СССР на традыцыйным веснавым кірмашы ў Лейпцыгу, які адкрыўся пад дэвізам «Гібкая аўтаматызацыя».

Трэці раз спецыяльную выстаўку ў рамках савецкай калектыўнай экспазіцыі арганізуе Беларуская ССР. Своеасаблівай візітнай карткай прадпрыемстваў, навукова-вытворчых аб'яднанняў і інстытутаў сталі 150 экспанатаў, у якіх увасоблены найноўшыя дасягненні навукова-тэхнічнай думкі рэспублікі. Як адзначыў на прэс-канферэнцыі ў Генеральным консульстве ГДР у Мінску віцэ-консул Бена Цыглер, гэта самая шырокая панарама за час удзелу БССР у падобных мерапрыемствах. На яго думку, асобую цікавасць у наведвальнікаў выкліча сумесная распрацоўка вучоных Акадэмій навук БССР і ГДР — лазер «Аметыст», сярод сфер прымянення якога біялогія і медыцына, дакладная метралогія.

У сваім выступленні на прэс-канферэнцыі прадстаўнік Гандлёва-прамысловай палаты БССР В. Дубоўскі падкрэсліў, што на залаты медаль выстаўкі будуць прэтэндаваць 18 вырабаў нашай рэспублікі. Знешнегандлёвае аб'яднанне «Беларусзамежгандаль» разгарнула камерцыйную дзейнасць так, каб зацікаўленыя арганізацыі ўжо ў ходзе кірмашу змаглі атрымаць не толькі кансультацыю, але і заключыць кантракты, дамовіцца аб сумеснай рабоце над стварэннем новых тэхналагічных сістэм, станкоў, машын і прыбораў.

ВЫСТАЎКІ




**Рэспубліканскі кірмаш па аптовым продажы тавараў культурна-бытавога і гаспадарчага прызначэння і галантарэі прайшоў у Мінску. На ім шырока прадставілі свае вырабы прадпрыемствы мясцовай прамысловасці, а таксама фабрыкі саюзных міністэрстваў. На выстаўцы заключаны дагаворы і пагадненні на пастаўку прадукцыі ў патрэбнай колькасці на прылаўкі магазінаў.**

**НА ЗДЫМКУ: у зале выстаўкі каля раздзела з прадукцыяй шклозавода «Нёман».**

ВЫЙШАЎ З ДРУКУ

## ТВОРЫ ЛЕНІНА

Выйшаў з друку на беларускай мове шосты том Выбраных твораў У. І. Леніна ў 10-ці таг У яго ўвайшлі творы, напісаныя ў 1910-1917 дах (да пачатку Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі), у тым ліку асноватворныя работы па нацыянальных праблемах: «Крытычныя нататкі па нацыянальнаму пытанню», «Аб праве нацый на самавызначэнне», «Сацыялістычная рэвалюцыя і права нацый на самавызначэнне», «Аб нацыянальнай гордасці велікаросаў» і некаторыя іншыя.

Упершыню ў прадмову, каментарыі і імянны паказальнік унесены змяненні і дабаўленні, рэкамендаваныя Інстытутам марксізму-ленінізму пры ЦК КПСС на падставе высноў Камісіі Палітбюро ЦК КПСС па дадатковаму вывучэнню матэрыялаў, звязаных з рэпрэсіямі, што мелі месца ў перыяд 30—40-х і пачатку 50-х гадоў.

Том падрыхтаваны да друку Інстытутам гісторыі партыі пры ЦК КПБ і выдавецтвам «Беларусь».

ДА ПАСЛУГ ПАКУПНІКОЎ

## КАМП'ЮТЭР У МАГАЗІНЕ

Не заходзячы ў гандлёвую залу, могуць даведацца аб наяўнасці патрэбных тавараў пакупнікі магілёўскага спартыўнага магазіна «Старт». Даведкі выдае камп'ютэрная сістэма. У яе базу даных звесткі аб тых ці іншых вырабах закладваюцца яшчэ пры паступленні іх на склад.

Сістэму па заказу магазіна распрацавалі спецыялісты кааператыва «Інтэграл», а сам персанальны камп'ютэр гандлёвыя работнікі набылі ў польскіх партнёраў, з якімі наладжаны прамыя сувязі. Пакуль электронны інфарматар можа даваць толькі даведкі, друкуючы іх на паперы. Але прадугледжана і магчымасць падключэння дэшыфратара, які будзе аўтаматычна зчытваць звесткі аб тавары з яго этыкеткі, перадаваць іх у аўтаматычны касавы апарат і ў базу даных.

КААПЕРАТЫЎНЫ РУХ

## ВЫГАДНА ЎСІМ

Хто з жыхароў Беларусі не ведае асобы смак хатняй каўбасы ці шынкі? Але перапрацоўчым прадпрыемствам яшчэ не ўдаецца дабіцца такога смаку вырабаў. І вось у саўгасе «Чырвоны сцяг» Баранавіцкага раёна за гэтую няпростую справу ўзяўся мясцовы кааператыў.

Дырэкцыя саўгаса пайшла насустрач рабочым Л. Піваварy, Г. Чэпіку, братам С. і Г. Фанчукам — выдзеліла памяшканне, дапамагла абсталяваць вяндлярны цэх. І амаль адразу кааператыўныя каўбасы, рулеты і грудзінкі атрымалі дастойную ацэнку не толькі мясцовых жыхароў, але і ў раённым цэнтры.

У фірменных магазінах гаспадаркі, дзе, акрамя мясных вырабаў, прадаюцца каля 20 відаў гародніны і зеляніны, грыбы-шампіньёны, грэчка і рознае насенне, на недахоп пакупнікоў не скардзяцца.

ПАДСОБНЫ ПРОМЫСЕЛ

## У ДАПАМОГУ ПАРФЮМЕРАМ...

Вядомаму ва ўсёй краіне і за мяжой маскоўскаму парфюмерна-касметычнаму аб'яднанню «Свабода» пачаў пастаўляць сыравіну калгас «17 верасня» Баранавіцкага раёна.

Сёння тут у клетках-навесах утрымліваецца 16 тысяч норак. У мінулым годзе рэалізавалі дзяржаве 37 тысяч шкурак. Пры гэтым пагалоўе звяркоў намячаецца пастаянна павялічваць.

Адначасова ідзе перапрацоўка пабочнага прадукту — тлушчу-сырцу. Раней гэтую дарагую сыравіну за бясцэнак прадавалі ў адну з спецыялізаваных гаспадарак Прыбалтыкі. Цяпер жа ў новым цэху зманціравана тэхналагічная лінія для перапрацоўкі тлушчу-сырцу ў рафінаваныя і дэзадараваныя норкавыя масла і тлушч, якія і адпраўляюцца парфюмерам. Цяпер сюды пастаўляюць пясцовы і норкавы тлушч-сырэц для перапрацоўкі ўжо многія гаспадаркі.

Акрамя аб'яднання «Свабода», баранавіцкі калгас заключыў дагаворы з Калужскім камбінатам сінтэтычных прадуктаў і камбінатам «Уральскія самацветы», якія будуць выпрацоўваць пахучае туалетнае мыла і высакаякасныя крэмы.

ЛЕКАВЫ ЧАЙ





**Пахі лугоў і лясоў увабраў у сябе чай, які прапануе пакупнікам мінская база «Белкаапсаюза». Тэхнолагі і інжынеры гэтага прадпрыемства адраджаюць старадаўнія і ствараюць новыя рэцэпты напіткаў з беларускіх траў. Пакупнікі пазнаёміліся ўжо з чаем «Дзвінскі», «Бярэзінскі», «Лясны водар». У гэтым годзе падрыхтавана яшчэ пяць навінак, у ліку якіх напітак «Дары лесу», «Заранка»», «Вітамінны». У іх рэцэптуру ўваходзяць святаяннік, чабор, мята, мацярдушка і многія іншыя травы. Усяго мяркуецца вырабіць каля 25 тон пахучага лекавага чаю.**

**НА ЗДЫМКАХ: работніцы брыгады па выпуску чайных напіткаў Наталля ВАЛОШЫНА і Галіна РАГОЎСКАЯ; падабаецца чай з траў і выхаванцам дзіцячага сада № 137 Мінска Наташы КАГАНОВІЧ і ЮЛІ РЫЖКОЎСКАЙ.**

**ЧАС ВЯЛІКІХ ЗМЕН**

# НОВАЯ ЯКАСЦЬ ЭКАНАМІЧНАГА РОСТУ

**Пра сённяшні стан гаспадаркі рэспублікі, нашы эканамічныя праблемы, што патрабуюць найхутчэйшага вырашэння, гутарыць з членам-карэспандэнтам Акадэміі навук БССР, доктарам эканамічных навук, прафесарам, дырэктарам Навукова-даследчага інстытута Дзяржплана БССР Віталем МЯДЗВЕДЗЕВЫМ карэспандэнт «Голасу Радзімы» Галіна УЛІЦЁНАК.**

*— Віталь Фядосавіч, мы і, магчыма, тыя з нашых землякоў, хто рэгулярна чытае савецкую прэсу, пастаянна сустракаем сцвярджэнне: сёння лёс перабудовы залежыць ад эфектыўнасці радыкальнай эканамічнай рэформы, якая распачата ў краіне. Карацей, поспех будзе, калі людзі пачнуць жыць лепш, бо менавіта гэта і ёсць мэта ўсіх нашых намаганняў. Што складанасцей і праблем у нас хапае, відавочна. Усе мы, нават і не эканамісты, зведваем гэта літаральна на сабе: не хапае таго, другога, многае не задавальняе па якасці. Пра гэта будзе яшчэ гаворка. Але не з адnымі ж памылкамі ў сваім сямідзесяцігадовым гаспадарчым, эканамічным багажы падышла рэспубліка да сённяшняга дня? Давайце паспрабуем зрабіць невялікі аналіз той эканамічнай базы, якую мы цяпер маем на Беларусі.*

— Пытанне вельмі ёмістае і вялікае. Адказаць на яго коратка практычна немагчыма. Але на некаторых асноўных момантах спынюся.

Не палічыце мяне нейкім хвальком, але скажу: дасягненні нашы мнагагранныя і велізарныя.

*— І гэта нягледзячы на мноства сённяшніх эканамічных праблем?*

— І гэта нягледзячы на ўсе нашы памылкі і праблемы.

Найважнейшымі вынікамі сямідзесяцігадовага развіцця можна лічыць тое, што ў рэспубліцы адбыліся рэвалюцыйныя змяненні ў эканамічных адносінах, сацыяльнай сферы, на тэрыторыі рэспублікі створаны магутны эканамічны і інтэлектуальны патэнцыял. У сістэме агульнасаюзнага і міжнароднага падзелу працы Беларусь выступае сёння як развітая індустрыяльна-аграрная краіна. У нас склаўся даволі эфектыўны рэгіянальны народнагаспадарчы комплекс. Фарміраванне яго пакуль не закончана, у яго складзе ёсць, на жаль, і недахопы, і нявырашаныя праблемы. Але сваю ўстойлівасць у развіцці ён (комплекс) даказаў. Беларусь заўсёды выконвала і перавыконвала пяцігадовыя народнагаспадарчыя планы, дарэчы, і тады, калі з імі не спраўляліся іншыя саюзныя рэспублікі.

І цяпер ідзе працэс нарошчвання тэмпаў эканамічнага росту...

*— Тут, магчыма, дарэчы будуць і пэўныя лічбы...*

— Калі ласка. Рэспубліка развіваецца высокімі тэмпамі. Аб'ём прамысловай вытворчасці падвойваецца кожныя дзесяць гадоў. І гэта ў той час, калі ў Вялікую Айчынную вайну гаспадарка была знішчана амаль поўнасцю. Нагадаю, што толькі прамая матэрыяльная страта, якую нанеслі гітлераўскія захопнікі (1941-1944 гады), склала суму, роўную 35 бюджэтам рэспублікі даваеннага 1940-га года. Тады Беларусь страціла больш за палову свайго нацыянальнага багацця. І не ведаю, ці здолелі б мы аднавіць свой эканамічны патэнцыял без вялікай інтэрнацыянальнай дапамогі ўсіх народаў СССР.

Але ж мы, здаецца, забыліся на лічбы... Дык вось, мяркую, чытачоў зацікавяць наступныя даныя.

Беларусь займае менш чым адзін працэнт тэрыторыі краіны, тут жыве 3,5 працэнта насельніцтва СССР, і ў той жа час рэспубліка вырабляе 4,2 працэнта агульнасаюзнага нацыянальнага даходу. Мы пастаўляем на ўнутрысаюзны і замежны рынак грузавыя аўтамабілі «БелАЗ», трактары «Беларусь», высакаякасныя бытавыя халадзільнікі, станкі з праграмным кіраваннем, радыё- і тэлеапаратуру, вылічальныя машыны, калійныя ўгнаенні, хімічныя валокны, поліэтылен...

У агульнасаюзным аб'ёме на долю Беларусі прыпадае 15 працэнтаў вытворчасці бульбы, 30 працэнтаў ільновалакна, 7 — малака, 6 — мяса пры наяўнасці двух працэнтаў ад усіх у краіне сельгасугоддзяў і трох — ворнай зямлі. Ну што, можа, хопіць ужо лічбаў? І названыя, мне здаецца, даволі красамоўныя.

*— Згодна. Вось мы з вамі гаворым пра выкананне планаў, нават іх перавыкананне. Але ж тэмпы тэмпамі, а ўзровень нашага жыцця пакідае жадаць лепшага.*

— Эканамічнае развіццё рэспублікі праходзіла ў складаных і супярэчлівых абставінах. Вельмі моцна пашкодзіла эканамічнаму росту Беларусі, як і ўсёй краіне ўвогуле, каманднa-адміністрацыйная сістэма, бюракратызм, якія і зараз яшчэ не знішчаны і тармозяць перабудову народнай гаспадаркі. Трэба памятаць і пра тое, што адсутнасць у нашым грамадстве належнага ўзроўню дэмакратыі, культ асобы Сталіна надоўга скавалі дзелавую ініцыятыву беларускага народа. За многія гады быў страчаны эканамічны, палітычны і сацыяльны статус гаспадара ў выніку адчужэння работніка ад сродкаў вытворчасці і вынікаў уласнай працы. Акрамя таго, назіраўся разрыў паміж асабістымі, групавымі, агульнанароднымі інтарэсамі, панавала ўраўнілаўка, калі неэфектыўная, а часам і непатрэбная праца лічылася грамадска-неабходнай.

Высокія тэмпы развіцця прамысловасці, індустрыялізацыя рэспублікі, пра што згадвалася, на жаль, не суправаджаліся адпаведнымі тэмпамі развіцця сельскай гаспадаркі, аграпрамысловага комплексу. А гэта разам з іншымі прычынамі прывяло да вялікіх страт, узнікнення многіх, ужо хранічных дыспрапорцый у эканоміцы рэспублікі, неэфектыўнага выкарыстання рэгіянальных рэсурсаў.

Былі і іншыя стратэгічныя і тактычныя пралікі, памылкі, неапраўданыя рашэнні. У прыватнасці, як і ўсюды ў краіне, недаацэньвалася значэнне прамысловасці, якая непасрэдна выпускае тавары народнага спажывання, заставалася «ў загоне» сацыяльная сфера.

*— Прайшлі ўжо тры «перабудовачныя» гады, другі год рэспубліка працуе ва ўмовах радыкальнай эканамічнай рэформы. Ці ёсць такія неабходныя нам сёння станоўчыя зрухі?*

— Зрухі ёсць. І даволі значныя. Адбываюцца сур'ёзныя змены ў сістэме эканамічных адносін. Пачалі дзейнічаць законы аб дзяржаўным прадпрыемстве і кааперацыі, завершаны перавод асноўнага звяна на поўны гасразлік і самафінансаванне, ідзе падрыхтоўка да пераходу рэспублікі на работу ва ўмовах гасразліку, самафінансавання і самаакупнасці, пашыраюцца арэндныя адносіны.

За гэтыя тры гады (1986-1988), я лічу, удалося вывесці эканоміку з перадкрызіснага стану, павярнуць яе да задавальнення патрэб чалавека. Валавы грамадскі прадукт павялічыўся на 15,1 працэнта і склаў летась больш за 64 мільярды рублёў. Узрасла і сярэднегадавая вытворчасць прадукцыі сельскай гаспадаркі на 11,1 працэнта, у тым ліку збожжа на чвэрць, малака на 15 і мяса на 22 працэнты. Зрухі ёсць. Вось і выпуск тавараў народнага спажывання павялічыўся на 22 працэнты.

Аднак зноў-такі не будзем цешыцца. Тых вынікаў, на якія грамадства разлічвае, пакуль няма.

*— Якія ж болевыя кропкі?*

— Мы пакуль не змаглі пераадолець глыбінныя прычыны тармажэння эканамічнага развіцця, працэсаў радыкальнай эканамічнай рэформы, дэмакратызацыі эканомікі, задавальнення жыццёвых духоўных і матэрыяльных патрэб людзей. Не адбылося неабходных для аздараўлення эканомікі зрухаў у навукова - тэхнічным прагрэсе, у павышэнні якасці машын, абсталявання і іншай прадукцыі, яе канкурэнтаздольнасці на сусветным рынку, хаця рэспубліка прадае свой тавар больш, чым у сто краін свету і 90 беларускіх прадпрыемстваў маюць прамыя сувязі з замежнымі фірмамі. Захоўваецца дэфіцыт сучаснай тэхнікі, асабліва інфармацыйнай. Прадпрыемствы машынабудавання ў мінулым 1988 годзе паставілі на экспарт толькі паўтара працэнта прадукцыі ад агульнага аб'ёму паставак, а між тым галіна займае трэцюю частку прамысловай вытворчасці рэспублікі. Што і казаць, становішча незайздроснае.

Абвастрылася ў нас, як і па ўсёй краіне, праблема задавальнення плацежаздольнага попыту насельніцтва. Па многіх відах тавараў і паслуг насычанасць рынку паменшылася. І нават больш таго. Апошнім часам разрыў паміж попытам і прапанаваннем па шэрагу тавараў павялічыўся, ды і цэны на тавары масавага попыту растуць. Прычына? Яна не адна. Галоўнае ж — заработная плата, грашовыя даходы павялічваюцца хутчэй, чым прадукцыйнасць працы.

*— Віталій Фядосавіч, зараз мы падышлі да адной з найважнейшых праблем: тэрытарыяльны, рэгіянальны, рэспубліканскі гаспадарчы разлік. Менавіта з ім звязаны нашы вялікія надзеі на поспех.*

*Размова пра гэта ідзе даволі працяглы час. Недзе ў канцы мінулага года ўжо з высокай афіцыйнай трыбуны прагучала: Беларусь рыхтуецца перайсці на рэгіянальны гасразлік. Але што ж такое рэгіянальны гасразлік, у якім выглядзе ён будзе рэалізаваны, цікавіла ўсіх. Адказу не было. Першымі прапанавалі свае эканамічныя мадэлі Прыбалтыйскія рэспублікі. Літаральна ў апошні час у нашай рэспубліканскай прэсе з'явілася некалькі артыкулаў, якія праліваюць святло на распрацоўкі беларускіх спецыялістаў. Такім чынам, нараджаецца «беларуская мадэль» тэрытарыяльнага гасразліку?*

— Наша мадэль рэспубліканскага гасразліку яшчэ распрацоўваецца. Я паспрабую выкласці толькі тыя прынцыповыя моманты, якія зараз абмяркоўваюцца беларускімі вучонымі-эканамістамі.

Наогул ідэя рэспубліканскага гаспадарчага разліку з'явілася перш за ўсё як альтэрнатыва існуючай галіновай цэнтралізаванай сістэме кіравання народнай гаспадаркай, якая забяспечвае комплекснасць і рацыянальнасць развіцця саюзных рэспублік, а таксама ўзаемасувязь паміж узроўнем вытворчасці і спажывання ў іх. Асноўнай мэтай галіновых міністэрстваў і ведамстваў стала нарошчванне вытворчасці данага віду прадукцыі і выкананне плана. Любой цаной. А гэта, зразумела, выключае цэласнае і збалансаванае развіццё асобнай тэрыторыі. А ў выніку — непазбежнае замаруджванне і адставанне эканамічнага развіцця ўсёй краіны ў цэлым.

(Заканчэнне на 4-й стар.).




**У невялікім беларускім гарадку Дзяржынску, як і ўсюды у рэспубліцы, рэалізуецца праграма жыллёвага будаўніцтва. У выніку пазначыўся прасвет у вырашэнні самай вострай праблемы. Калі поспехі частыя, яны не так прыкметныя. Але тое, што рашучы паварот ад хранічнага адставання адбыўся ў невялікім горадзе, дзе з цяжкасцю ўспамінаюць, калі апошні раз быў выкананы план уводу жылля, здзівіла многіх.**

**Сярод прычын, якія так ці інакш садзейнічалі поспеху, называюць і з'яўленне новага, больш энергічнага начальніка будаўнічага ўпраўлення, і папаўненне гэтай арганізацыі рабочай сілай у сувязі з пачаткам будаўніцтва ў Дзяржынску завода бульбапрадуктаў, і больш аператыўную работу забеспячэнцаў. Аднак намеснік старшыні гарадскога Савета народных дэпутатаў, ён жа начальнік гарадскога ўпраўлення капітальнага будаўніцтва, Яўген Кунцэвіч лічыць галоўным фактарам поспеху перабудову, якая пачалася ў гаспадарчым механізме вобласці.**

**Узяць хаця б праектаванне. Раней дыктаваў, дзе і што будаваць, у асноўным інстытут «Мінскграмадзянпраект», які выбіраў для сябе аб'екты больш выгадныя. Цяпер жа становішча змянілася: рашэнне аб будаўніцтве прымае аблвыканкам, які ўлічвае перш за ўсё заяўкі мясцовых органаў. Такім чынам, адпала неабходнасць «прабіваць» аб'екты, на што раней ішлі гады. Больш вольна стала і з кааператаваннем сродкаў, якія выдзяляюцца на ўзвядзенне жылля прадпрыемствамі і арганізацыямі. Мясцовае будаўнічае ўпраўленне поўнасцю перайшло на калектыўны падрад, цяпер яно мае большую самастойнасць ва ўмацаванні ўласнай матэрыяльна-тэхнічнай базы. Новы метад арганізацыі і стымулявання працы дазволіў значна павысіць прадукцыйнасць усяго будаўнічага канвеера.**

**Яўген Кунцэвіч называў лічбы 230 і 240— столькі кватэр было здадзена ў 1986 і 1987 гадах, 319 — амаль на трэць больш — у 1988 годзе. І яшчэ адну асаблівасць сённяшняга будаўніцтва адзначае ён: калі раней гналіся толькі за колькасцю жылой плошчы, то цяпер абавязкова ўлічваюцца сацыяльна-бытавыя і культурныя запатрабаванні будучых жыхароў. Напрыклад, у апошні час былі пабудаваны універмаг, камбінат бытавога абслугоўвання, прадуктовы магазін, тэрапеўтычны корпус раённай бальніцы.**

**НА ЗДЫМКУ:** побач з жыллём у Дзяржынску абавязкова ўзводзяцца аб'екты сацыяльна-бытавога прызначэння.

**Фота А. НІКАЛАЕВА.**

*ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ ВУЧОНАГА*

# САЦЫЯЛІЗМ — ГЭТА ЛАД ЦЫВІЛІЗАВАНЫХ КААПЕРАТАРАЎ

ДЛЯ ўсіх перыядаў дзяржаўнага сацыялізму характэрна імкненне вырашаць наспеўшыя праблемы ў жыцці грамадства, удасканальваючы палітычную сістэму метадам «латання дзірак»: зменай кадраў, ліквідаваннем некаторых кіраўніцкіх структур і стварэннем новых і да т. п. Сёння праблема ўдасканалення палітычнай сістэмы вырашаецца шляхам рэформ, гэта значыць больш грунтоўна. І галоўнае тут я бачу ў размежаванні функцый партыі і Савецкай улады, партыі і ведамстваў.

### РЭАЛЬНЫЯ ВЫХАДЫ З ТУПІКА

Мы шукаем дэмакратычны механізм, здольны прадухіляць апаратныя перавароты, якія сталі нормай жыцця і дзейнасці Савецкай дзяржавы пасля Леніна. Здавалася б, гэты механізм заключаецца ў дэмакратызацыі ўнутрыпартыйнага жыцця, якая гарантуе асабістую бяспеку членаў партыі ўсіх узроўняў. І гэта так, але пры адной абавязковай умове: калі яна будзе адэкватна адлюстроўваць эканамічную дэмакратыю, заснаваную на злучэнні работніка з уласнасцю на сродкі вытворчасці, а значыць, і на выробленую прадукцыю. Ёсць прамая неабходнасць вярнуцца на справе да ленінскіх норм жыцця, дзейнасці партыі і яе будаўніцтва. Гэта варта помніць заўсёды, таму што перабудова — гэта рэвалюцыя «зверху». Сіла, што ажыццяўляе рэвалюцыю, павінна быць поўнасцю ленінскай па свайму мысленню і метадах. Мэтай гэтай рэвалюцыі з'яўляецца пераварот у вытворчых адносінах. Інакш рэфармаваная палітычная сістэма вернецца на «кругі свая» для абслугоўвання нязменнага базісу, гэта значыць, вытворчасці на падставе манаполіі дзяржавы і адпаведнай ёй улады. Патрабуецца дэманціраваць дзяржаўны спосаб вытворчасці, пераўтварыць яго ў кааператыўны. Чаму Савецкая дзяржава, згодна з марксізмам-ленінізмам, не толькі не пачала адміраць, а працягвала ўсё больш умацоўвацца аж да канчатковага забюракратызавання? Ці рэальны быў прагноз класікаў аб адміранні дзяржавы, якая валодае ўсёй эканомікай? Хіба не з'яўляюцца палітычныя функцыі вынікам і працягам эканамічных функцый? Каб чаму-небудзь адмерці, трэба вычарпаць свае жыццёвыя магчымасці яго караням, аснове. Асновай палітычнай улады ў СССР з'яўляецца яе ўласнасць на сродкі вытворчасці.

Цяпер можна сустрэць сцвярджэнне, што пакуль зло бачаць у асобных скрыўленнях і перагібах, а не ў самой каманднa-адміністрацыйнай сістэме, не ўбачыць грамадства адчувальных перамен да лепшага. А справа ж зусім не ў адміністрацыйна-каманднай сістэме: яна існуе не сама па сабе, яна — вытворная ад свайго базісу. Думаецца, перабудова так цяжка ідзе таму, што яна поўная процілегласць каманднa-адміністрацыйнай сістэме. Каб ёй (перабудове) не было перашкод, трэба падсекчы той «сук», на якім адміністрацыйная сістэма трывала ўгняздзілася. **Генеральны шлях выхаду з тупікоў сталінізму і застою, на мой погляд, — у кааператыўным і роднасным яму арэндным руху.** І не ў якасці паралельнай ці тым больш «бакавой», падпарадкаванай, залежнай ад дзяржавы вытворчасці, а якая ахоплівае сабой, за малым выключэннем, усю эканоміку.

### КААПЕРАЦЫЯ — СПАЛУЧЭННЕ АСАБІСТАГА І ГРАМАДСКАГА ІНТАРЭСУ

Скразная ідэя ленінскай канцэпцыі сацыялізму сфармулявана ў яго артыкуле «Аб кааперацыі»: «...лад цывілізаваных кааператараў пры грамадскай уласнасці на сродкі вытворчасці, пры класавай перамозе пралетарыяту над буржуазіяй — гэта ёсць лад сацыялізму». У гэтай сувязі Ленін не раз у сваіх работах вяртаецца да думкі аб пагалоўным кааператаванні ўсяго насельніцтва краіны. Размова ішла, такім чынам, аб усіх сферах жыцця грамадства, пачынаючы з вытворчасці і гандлю і канчаючы сервісам, навукай, культурай, мастацтвам і г. д.

Калі б намі была ўлічана думка Энгельса аб тым, што пралетарская дзяржава захоўвае за сабой права ўласнасці на сродкі вытворчасці толькі на першым часе, то адмова ад яго ў далейшым разам з ажыццяўленнем ленінскай ідэі дала б нам зусім не тое, што мы цяпер маем і ў эканоміцы, і ў палітычным ладзе краіны. Сродкі вытворчасці непазбежна акazаліся б у карыстанні народа, і тым самым былі б знішчаны эканамічныя асновы існавання класаў, а, значыць, адпала б і неабходнасць класавага панавання пралетарыяту. У кааперацыі кіраванне эканомікай ажыццяўлялася б на дэмакратычных пачатках, таму што на іншых пачатках кіраванне ў ёй немагчыма. Успомнім ленінскае вызначэнне класаў, якія ўяўляюць з сябе перш за ўсё групы асоб, якія адрозніваюцца становішчам у грамадскім ладзе, вытворчасці, і адрозніваюцца так, што адна група можа прысвойваць сабе працу другой групы. Сацыялістычная кааперацыя якраз і з'яўляецца такой формай арганізацыі вытворчасці, пры якой аб'яднаныя вытворцы могуць не дазволіць нікому іншаму прысвойваць іх працу і яе вынікі. Думаю, што савецкім грамадствам ні тады, ні цяпер не асвоена па-сапраўднаму галоўная перавага сацыялістычнай кааперацыі перад капіталістычным прадпрыемствам.

Прынята лічыць: кааперацыя — гэта форма неантаганістычнага пераўтварэння індывідуальных дробнатаварных гаспадарак у сацыялістычныя. Гэта ёсць спосаб мірнага, без палітычнага насілля, вырашэння супярэчнасцей паміж пралетарыятам і дробнай буржуазіяй ва ўмовах сацыялістычнага будаўніцтва. Наша бяда была ў тым, што гэтае тэарэтычнае веданне не было праведзена ў жыццё. Сталінскае разуменне галоўнай пагрозы сацыялізму ў асобе сялянства як незалежнай, самастойнай сілы павяло да палітыкі зжывання са свету гэтага класа, які нібыта перашкаджае будаўніцтву новага грамадства. Сапраўды, існавала рэальная пагроза сацыялізму ад дробнабуржуазнасці грамадства, носьбітам якой была толькі невялікая частка сялянства. Але метад рэпрэсій, навязаны партыі і рабочаму класу Сталіным, нічога агульнага не мае з марксізмам. Задача заключалася ў тым, каб «зжыць са свету» дробнабуржуазнасць, пакінуўшы селяніна ў якасці сельскага працаўніка-гаспадара і саюзніка рабочага класа ў будаўніцтве сацыялізму. Гэта можна было зрабіць нэпаўска-кааператыўным спосабам, выкарыстоўваючы дробнабуржуазную натуру селяніна на карысць сацыялізму, дыялектычна спалучаючы супярэчнасці. Дробнабуржуазнасць адмаўляе сацыялізм, але той, у сваю чаргу, скарыстоўвае яе і захоўвае для развіцця вытворчасці і ўсяго іншага, што трэба грамадству і што можа быць кааперавана, калі гэта неабходна развіццю новага ладу. Пад захаваннем дробнабуржуазнасці сялянства ў кааперацыі я маю на ўвазе яго прыватны інтарэс, заснаваны на яго долі ў кааператыўнай уласнасці і атрыманай прадукцыі. Гэта, па-першае. Па-другое, перавага кааперацыі заключаецца і ў тым, што яна можа вырашыць жыццёвыя праблемы зусім не адной толькі дробнай буржуазіі, а ўсяго народа, таму што супярэчнасць паміж асабістымі інтарэсамі і інтарэсамі грамадства з'яўляецца ўсеагульнай. У гэтым, уласна, і заключаецца галоўная цяжкасць сацыялістычнага будаўніцтва, пакуль яшчэ нідзе не пераадоленая, а ў СССР папярэднімі этапамі развіцця намнога ўскладненая нават у параўнанні з самым пачатковым перыядам жыцця савецкага грамадства. Кааперацыя пераадольвае гэтую супярэчнасць, ствараючы ўмовы для рэалізацыі групавога інтарэсу, у якім выразна можа быць прадстаўлены і асабісты інтарэс кожнага. У адрозненне ад дзяржаўнага (агульнанароднага) інтарэсу, у якім асабісты інтарэс прадстаўлены толькі абстрактна. Менавіта гэты асабісты інтарэс сёння «выцягвае» з тупіка перададзеныя ў арэнду ці пераўтвораныя ў кааператыўныя стратныя прадпрыемствы, якія стаялі на грані катастрофы пры дзяржаўным кіраўніцтве імі.

### ГРУПАВЫ ІНТАРЭС — СУПРАЦЬ БЮРАКРАТЫІ

Дзяржаўнае прадпрыемства дрэнна рэалізуе агульнанародны інтарэс, але нядрэнна — інтарэсы бюракратыі. У яго практычна няма персаніфікаванага гаспадара - ўласніка, ім камандуюць чыноўнікі, дачаснікі, дабрабыт якіх не залежыць ад таго, як вядзецца гаспадарка. Таму яна і вядзецца неэфектыўна, бо неўспрымальная да развіцця на падставе інтэнсіфікацыі. А ў сацыялістычнага кааператыўнага прадпрыемства, што аб'ядноўвае ў сабе вытворцаў-уласнікаў і асноўнага капіталу, і вытворчай прадукцыі, **аб'ектыўна** фарміруецца з самага пачатку **групавы інтарэс**, які з'яўляецца ў эканамічным плане, магчыма, адзіна рэальнай перавагай перад капіталістычным прадпрыемствам. Можна сабе ўявіць, якія перспектывы адкрыюцца перад усенароднай кааператыўнай вытворчасцю, свабоднай ад наёмнай рабочай сілы, якая сканцэнтравала ў сабе людзей, асабіста незалежных ні ад кога, але ўзаемазалежных адзін ад аднаго на роўных пачатках, а таму і поўнасцю зацікаўленых у працвітанні вытворчасці і ўсяго таго, што трэба грамадству. Альфа і амега сацыялістычнага будаўніцтва — вызваленне гіганцкай энергіі, закладзенай у чалавеку, але прыгнечанай умовамі яго пражывання. Нярэдка чуеш, што немагчымыя яшчэ ўчора поспехі ў шэрагу сучасных кааператыўных прадпрыемстваў з'яўляюцца вынікам працы на знос іх членаў, што, маўляў, яны працуюць па 12 і больш гадзін у суткі. Нават калі ўзяць на веру, што ў іх часам рабочы дзень намнога даўжэйшы за звычайны, чым на дзяржаўных прадпрыемствах (установах), то хацелася б запярэчыць: «свая ноша не цягне». Работа па найму нават на працягу 2 — 4-х гадзін можа быць цяжкай, прыгнятальнай, калі яна не цікавая, «не твая», мала аплачваецца і г. д. І, наадварот, неабмежаваная часам праца можа прыносіць задавальненне і нават радасць, калі яна — творчая і выніковая, што з'яўляецца правілам у людзей творчых прафесій (паводле сучаснага тлумачэння: вучоных, канструктараў, вынаходнікаў, пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў). А ўвогуле кажучы, няма работы, якая б не была творчай, ёсць людзі і ўмовы, якія ператвараюць любую работу ў нятворчую і цяжкую. Кааперацыя выключае і тых, і другіх. Дэвіз марксізму: вольнае развіццё кожнага як умова вольнага развіцця ўсіх. Ён ажыццявімы толькі пры арганічным злучэнні работніка з прыладамі працы, са сродкамі вытворчасці.

Вытворчая дэмакратыя, а яна ў кааперацыі — **«асацыяцыі вольных і роўных вытворцаў»** — абсалютна непазбежная (інакш няма кааперацыі), у стане выклікаць сапраўдную дэмакратызацыю ўсіх іншых сфер жыцця грамадства. Гэта будзе дэмакратыя людзей самастойных, з грамадзянскай годнасцю і палітычна дзейсных.

**Агдас БУРГАНАЎ,**
**прафесар, кандыдат гістарычных навук.**

# НОВАЯ ЯКАСЦЬ ЭКАНАМІЧНАГА РОСТУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

*— Таму прыбалтыйскія эканамісты і прапануюць: перадаць усе прадпрыемствы ў распараджэнне той рэспублікі, на тэрыторыі якой яны знаходзяцца. Можа выхад сапраўды тут?*

— Ведаеце, я лічу падобныя прапановы таксама крайнасцю. І гэта тычыцца перш за ўсё менавіта перадачы ва ўласнасць рэспублікі ўсіх прадпрыемстваў на яе тэрыторыі і прыродных рэсурсаў.

Сусветны вопыт, наадварот, паказвае мэтазгоднасць знішчэння міждзяржаўных «эканамічных граніц» і фарміравання агульнай «эканамічнай дзяржавы». З гэтай мэтай краіны — удзельніцы Еўрапейскага эканамічнага згуртавання рыхтуюць адзіны рынак, нават уводзяць агульную грашовую адзінку — экю. А некаторыя калегі з Прыбалтыйскіх рэспублік прапануюць увесці ў кожнай савецкай рэспубліцы свае грошы!

*— Да якой жа тады ідэі прыходзяць нашы беларускія даследчыкі-эканамісты?*

— Мяркуецца, што на першым этапе на рэгіянальны гасразлік пяройдзе, па-першае, невытворчая сфера, па-другое, тэрытарыяльная інфраструктура агульнага прызначэння, патрэцяе, вытворчыя аб'екты, асноўная частка прадукцыі якіх застаецца ў рэгіёне.

*— Ну, а так званыя саюзныя прадпрыемствы?*

— Прадпрыемствы агульнасаюзнага значэння павінны таксама быць далучаны да рэгіянальнага гасразліку, але на аснове эканамічных узаемаадносін з тэрыторыяй, на якой размешчаны. Гэта значыць, плаціць ёй за працоўныя і прыродныя рэсурсы, за выкарыстанне інфраструктуры і яе развіццё, за стан і аднаўленне навакольнага асяроддзя. Трэба не забывацца, што зямля, вада і да т. п. — уласнасць народа і распараджацца ёю павінны мясцовыя Саветы народных дэпутатаў. Іх эканамічная палітыка, звязаная з фарміраваннем цэн на зямлю, водаспажыванне, са штрафнымі санкцыямі за забруджванне і нерацыянальнае выкарыстанне прыродных рэсурсаў, з развіццём сацыяльнай і вытворчай інфраструктуры і павінна стымуляваць адны вытворчасці і стрымліваць іншыя і такім чынам ствараць комплексныя рэгіянальныя вытворчыя сістэмы.

*— Я так разумею, што мы закранулі толькі некаторыя, прынцыповыя прапановы.*

— Так. Разам з развіццём рыначных адносін у краіне будуць мяняцца і гасразліковыя ўзаемадзеянні паміж рэгіянальнымі сістэмамі і прадпрыемствамі. Аднак ніколі, лічу, рэгіянальны гасразлік не павінен раз'ядноўваць. Наадварот, ён закліканы мацаваць агульны народнагаспадарчы комплекс краіны, саюз рэспублік.

*— Зараз грамадскасць рэспублікі ўсё больш непакоіць негатыўны ўплыў гаспадарчай дзейнасці буйных прадпрыемстваў на прыроду Беларусі, а значыць і кожнаму з нас наносіцца немалая шкода. У тым ліку і матэрыяльная. Гаворым, гаворым, але справы рухаюцца далёка не лепшым чынам. Шмат прэтэнзій да буйных прадпрыемстваў у жыхароў Наваполацка, Магілёва, Салігорска. На жаль, пералік можна працягваць.*

— Размовамі можна праблему акрэсліць, завастрыць. А каб вырашыць яе, трэба шукаць эканамічныя рычагі стымулявання прыродаахоўнай дзейнасці. Магчыма, спатрэбяцца новыя эканамічныя рашэнні. Мы павінны сканцэнтраваць свае намаганні на папярэджанні забруджвання, а не толькі на барацьбе з яго вынікамі.

*— Віталій Фядосавіч, дзякую вам за гутарку. Між іншым, тэма настолькі вялікая, што ахапіць нават галоўнае ў адным артыкуле проста немагчыма. Але наша газета яшчэ звернецца да ходу эканамічнага развіцця Беларусі, будзе інфармаваць сваіх чытачоў.*

## Ю. АФАНАСЬЕВ: «ИСТОРИЯ НЕ ТОЛЬКО УЧИТЕЛЬНИЦА ЖИЗНИ»

# БЕЗ ИСКУССТВЕННОГО «ПОДРАВНИВАНИЯ»

**Ректор Московского историко-архивного института профессор Юрий АФАНАСЬЕВ в беседе с корреспондентом Агентства печати Новости Павлом ЗАРИФОВЫМ размышляет над некоторыми проблемами истории советского общества.**

*— Какова главная идея, которой вы руководствуетесь в своей научной работе?*

— Идея необходимости диалектического отношения к истории, познания ее объективных закономерностей без какой-либо ложной стыдливости в отношении сложных и противоречивых явлений.

Вообще, высказывание древних «история — учительница жизни» не следует воспринимать буквально. К сожалению, до сих пор ее часто рассматривают лишь как сумму примеров для воспитания новых поколений. Такой взгляд весьма ограничен. У исторического опыта есть несравненно более важная социальная функция, которую мы пока не научились реализовать до конца.

Чтобы отчетливо разобраться в дне сегодняшнем, нужно объемно, со всеми достижениями и ошибками, осознать прошлое. Насколько важен подобный реалистический подход, показывает весь ход событий в СССР после XXVII съезда КПСС (1986).

*— В одном из своих недавних выступлений в печати вы указали на особую важность изучения двух периодов советской истории: с 1917 года по 1929-й и с 1956-го по 1965-й. Из чего вы при этом исходили?*

— Эти периоды наиболее важны для заимствования теоретического опыта, полезного сегодняшней перестройке. Именно в ленинский и послесталинский периоды особенно интенсивно шло соревнование идей относительно путей развития социалистического общества.

Глубокого же изучения, безусловно, достойны все без исключения периоды — вплоть до сегодняшнего дня. И здесь, надо признаться, советская историческая наука и философия оказываются пока не на высоте. До сих пор, как отмечали в печати мои коллеги, в научной литературе нет детальных, взвешенных оценок деятельности Сталина, Хрущева, Брежнева и других руководителей государства. Не случайно уже два десятка лет никак не может завершиться выпуск серии «История СССР от древнейших времен до наших дней».

*— Особенно жаркие споры идут сейчас вокруг личности Сталина и его методов руководства. Не кажется ли вам, что наука в этой дискуссии отстала от литературы? Вспомним «Дом на набережной» Юрия Трифонова, «Зубр» Даниила Гранина, «Дети Арбата» Анатолия Рыбакова.*

— К сожалению, это факт. Художественная литература, публицистика, кинематограф опередили нас. Они стали осваивать явления недавнего прошлого раньше и, надо признать, в определенном смысле глубже, чем историческая наука.

Есть много причин этого явления. Главная, по-моему, в том, что мышление литераторов и художников оказалось более раскованным и позволило им отразить ту эпоху относительно правдиво. Историки же еще в значительной степени находятся в плену у догматизма. Разумеется, нельзя упускать из виду объективные трудности. Скажем, до сих пор историки не располагают всеми необходимыми источниками (хотя сейчас приняты решения о расширении доступа к архивам). Или то очевидное обстоятельство, что все мы во многом продукты своего времени, впитавшие определенные традиции и авторитеты. Писать на такую тему — дело не просто сложное, но крайне ответственное.

*— Вы хотите сказать, что работ, анализирующих ту эпоху, нет совсем?*

— Они существуют. Есть исследования по периоду коллективизации сельского хозяйства и индустриализации страны, по Великой Отечественной войне. Однако авторы, словно сговорившись, дружно обходят молчанием многие неоднозначные и отрицательные явления политической, экономической, военной и духовной жизни, связанные со сталинизмом.

*— Существуют ли какие-то пока не опубликованные труды?*

— Не думаю. Это бы уже обнаружилось, учитывая быстроту, с которой пробились в печать с началом перестройки не публиковавшиеся ранее художественные произведения. Если же не ограничиться только сталинской темой, то можно найти примеры того, как догматизм, укоренившийся в нашей исторической науке, и беспринципность издательских работников мешали глубоким, неординарным исследованиям стать достоянием общественности.

Так, на 20 лет «опоздали» к нам некоторые труды талантливых теоретиков истории Павла Волобуева и Константина Тарновского (в частности, их совместная монография, посвященная многоукладности России в революционную эпоху).

А между тем, они весьма продуктивны для понимания типа исторического развития предреволюционной России — а значит, и характера процессов, протекавших в революционный и послереволюционный периоды. Тарновский призывал к комплексному рассмотрению всей совокупности социально-экономических реалий. В то время, как в мире докапиталистическая и капиталистические формы общественных отношений, индустриальный и патриархальный уклады были в начале века в основном «распределены» между отдельными странами и регионами, в России, в рамках одного государства, они столкнулись и переплелись. Поэтому только на основе комплексного подхода можно сделать верные выводы о расстановке классовых и политических сил накануне 1917 года, объяснить остроту социальных конфликтов, глубину и трудность перемен после победы Октября.

Эта концепция многоукладности многим не понравилась: в ней усмотрели «недооценку уровня капиталистического развития России. Ведь по общеобязательной установке следовало доказывать, что страна в начале века полностью «дозрела» до революции. Но еще Ленин, подчеркивая многоукладность России, называл ее «слабым звеном» в цепи империализма!..

Более свежий печальный пример — судьба книги Василия Поликарпова «Лагерь контрреволюции» (об офицерском корпусе царской армии). Эта интересная работа давно написана и рекомендована к публикации, но так пока и не увидела свет.

*— В одном из интервью вы предложили переиздать некоторые работы Сталина и других политических деятелей. Почему?*

— Думаю, полезно было бы переиздать не только Сталина, но и Бухарина, Зиновьева, Каменева, Троцкого. Ведь старые издания уже почти недоступны, а вечно ограждать молодые поколения от «нежелательных влияний» неразумно и неэтично. Гласность должна проявиться и здесь—иначе вооружить людей глубоким знанием советской истории во всех ее противоречиях мы не сможем. Есть теоретические взгляды отдельных деятелей и движений той эпохи, нашедшие выражение в определенных поступках. Есть и ленинская, партийная их критика. Так, объективно, и следует воспроизводить ход событий. Лишать же ту или иную личность или идейное течение места в отечественной летописи и на книжных полках было бы продолжением все той же недоброй памяти традиции искусственного «подравнивания» истории.

*— Массовый интерес к отечественной истории в СССР растет в последнее десятилетие с небывалой быстротой и не находит должного удовлетворения...*

— Согласен. Уже не раз поднимался вопрос о необходимости стимулировать, направить эту стихийную тягу народа к самопознанию. В частности, созвать новое Всесоюзное совещание историков (последнее ведь состоялось 26 лет назад!), создать Историческое общество СССР, начать выпуск массового научно-популярного журнала по истории. Но все это пока остается в стадии проектов. Будем надеяться, что сама обновляющаяся жизнь подтолкнет компетентные организации к их реализации. Ибо целенаправленно творить будущее можно, лишь прочно опираясь на фундамент истории.



«Гармония» — молодежный клуб (на снимке), который стал центром притяжения юношей и девушек Баранович. Весёлые, энергичные, инициативные молодые люди собираются вместе, чтобы объединить свои интересы, расширить кругозор, понять мир современного искусства, науки.

Фото Э. КОБЯКА.

## ШАГ К СОЦИАЛИСТИЧЕСКОМУ ПЛЮРАЛИЗМУ

# ДИАЛОГ С «НЕФОРМАЛАМИ»

«Неформальные объединения» — неологизм периода перестройки. Русский язык, не справившись с потоком возникающих повсеместно обществ и клубов, объединил под термином «неформалы» самые разные социальные течения: от молодежных группировок рокеров, производящих только моторный рев на ночных перекрестках, до народных фронтов, наделавших немало шума на советской политической арене. А посредине общество «Милосердие», взявшее на себя конкретную помощь немощным и одиноким людям; общества охраны памятников культуры; экологические движения... Возможно особенно много молодежных объединений, взявшихся за строительство жилья, еще больше подростковых и семейных клубов, фондов молодежных инициатив. В последнее время среди «неформалов» в отдельную группу выделились общества, дискуссионные клубы, широкие демократические движения, имеющие четкую социальную и политическую программу, стремящиеся осмыслить свое место в общественной жизни.

Неформальные объединения не только заполняют пустоты в структуре традиционных общественных организаций, но и теснят те из них, которые заражены «аппаратным вирусом». Например, в СССР существует большое количество добровольных обществ. Каждое из них долгое время было единственным в своей сфере и как бы владело мандатом на «монопольную» истину. Увы, деятельность этих обществ зачастую сводится к сбору членских взносов, не оказывая влияния на общественную практику. Привычка к аппаратным решениям настолько сильна, что этим вирусом оказались поражены новые, возникшие уже в период перестройки, общества: к примеру, Всесоюзное музыкальное или Общество борьбы за трезвость. Формула их создания позаимствована из прошлых времен: сначала создается «штаб» с полномочиями, а затем начинается «вымучивание» мероприятий. «Так формировался феномен псевдо-общественности,... которая страшна социальной фальшью, конформизмом»,— считает советский юрист Нина Беляева. Все же большинство самодеятельных инициатив отвечают характеристике «неформальные» и потому зачастую встречаются в традиционных структурах «в штыки».

Сегодня в СССР на равных существуют и имеют одинаковые возможности для самореализации объединения разных толков, выражающие различные мнения, взгляды, платформы. Общество, увидев свое пестрое отражение в зеркале этих объединений, с удивлением обнаружило, что оно далеко не монолитно. Так, почта группы «Мемориал», выступающей за создание памятника жертвам сталинских репрессий, изобилует письмами... сталинистов. Демонстрации сторонников возвращения исторических названий городам вызывают протесты тех, кто считает новые названия свидетелями истории и потому не подлежащими изменениям.

Очевидно, гражданские инициативы—не временное явление периода перестройки. Новый советский курс лишь проявил то богатство специфических интересов, которое долгое время было спрятано за показными лозунгами. Существование противоположных точек зрения, альтернативных программ — одно из свидетельств выздоровления общества, его жизнеспособности. Однако зачастую рядовыми гражданами «неформалы» воспринимаются все же достаточно настороженно.

Прежде всего сказывается оторванность неформальных групп от государственных средств массовой информации, недостаточные знания программ этих клубов. Не случайно, скажем, первый секретарь ЦК ВЛКСМ Виктор Мироненко признался в одном из интервью, что резко изменил свое мнение о неформальном движении после знакомства с некоторыми молодежными политическими клубами: многие вопросы они ставят гораздо радикальнее и глубже, чем комсомол. Нельзя сбрасывать со счетов и многолетний страх личного выбора, и реальное сопротивление бюрократического аппарата. Есть и причины психологического свойства.

«Открытие немонолитности» повлекло за собой еще одно явление: в людях еще сильна нетерпимость к иному образу мыслей, стилю жизни. Рождение все новых и новых самодеятельных инициатив колеблет основы тоталитарного мышления, твердящего, что должна быть только одна правильная позиция, а все остальные точки зрения надо квалифицировать как ошибки и заблуждения. Необходимость прислушиваться к мнению оппонента, готовность уступить ему трибуну для развития своей точки зрения — как условие подлинной демократии — еще только начинает находить дорогу к сознанию людей. Часто грешат нетерпимостью и сами неформалы, и их оппоненты. «Наше общество все отчетливее разделяется на множество групп с разнонаправленными интересами, их общежитие может основываться только на терпимости и готовности к компромиссу», —отмечает художник Энн Пылдросс, избранный недавно кандидатом в члены бюро ЦК КП Эстонии. Пока этот компромисс заключается лишь в том, что неформальные молодежные группы имеют право на существование, но к их голосу мало прислушиваются. Задача в том, чтобы перейти к результативному диалогу.

**Оксана ПЕТРУНЬКО.**
(АПН).

## НА ШТО НАТРАПІЛІ ДАСЛЕДЧЫКІ

# НЕВЯДОМАЕ ПРА ІВАНА НАСОВІЧА

**«Сярод працаўнікоў навукі,— пісаў акадэмік І. Сразнеўскі, — ёсць заўсёды асобы, вядомыя і паважаныя значна меней, чым таго яны заслужылі. Да ліку такіх працаўнікоў навукі належыць і Насовіч. Нікім не падтрыманы, ён працаваў доўгія гады над вывучэннем быту і мовы беларускага народа; з незвычайнай стараннасцю сабраў і прывёў да ладу велізарны матэрыял... Наўрад ці можна назваць што-небудзь лепшае ў гэтым родзе па шырыні і сур'ёзнасці зместу...»**

**Гэтыя словы сталі своеасаблівым дэвізам, пад якім на філалагічным факультэце БДУ імя У. І. Леніна ў канцы мінулага года прайшла навуковая канферэнцыя, прысвечаная 200-годдзю з дня нараджэння нашага буйнейшага філолага, фалькларыста і этнографа, аўтара першага тлумачальнага слоўніка беларускай мовы І. Насовіча.**

**Прысутныя з цікавасцю праслухалі даклады вучоных «Творчая спадчына І. Насовіча ў асвятленні лінгвістычнай навукі», «Тэрміналагічная лексіка ў «Слоўніку Насовіча», «Традыцыі Насовіча ў беларускай лексікаграфіі».**

**У канферэнцыі прыняла ўдзел навуковая моладзь. З паведамленнем «Геаграфічная арыентацыя «Слоўніка І. Насовіча» і ўнутрыбеларускія лексічныя сувязі» выступіў І. Запрудскі. А. Яскевіч спынілася на граматычных інтарэсах вучонага па матэрыялах не друкаванага раней уступнага артыкула да «Слоўніка беларускай мовы», адшуканага нядаўна даследчыкамі.**

**Па просьбе рэдакцыі Алена Яскевіч падрыхтавала артыкул пра знаходку вучоных.**

Гэта было яшчэ ранне беларускага мовазнаўства.

Спробы разабрацца ў граматычнай сістэме беларускай мовы новага часу былі ў Я. Чачота (Прадмова да зборніка народных песень 1846 г.), П. Шпілеўскага («Беларусь у характарыстычных апісаннях»), А. Кіркора («Погляд на Віленскую губернію», 1852 год) і іншых.

Відавочна, не мог абмінаць пытанняў граматыкі і І. Насовіч, лінгвіст ужо ў поўным сэнсе слова. Але ніякіх звестак пра яго граматычныя інтарэсы не было літаральна да самага апошняга часу. Як цяпер выявілася, з-за таго, што пры пачатковай публікацыі яго «Слоўніка беларускай мовы» была апушчана прадмова. Нядаўна І. Цішчанку ў час архіўных росшукаў сярод багатай рукапіснай спадчыны І. Насовіча ўдалося натрапіць на яе тэкст, які лічыўся згубленым. Даследчык даў магчымасць азнаёміцца з лінгвістычнымі нататкамі вучонага пад назвай «Опыт краткого филологического наблюдения о белорусском наречии».

З хваляваннем учытваемся ў напісанае рукою І. Насовіча і здзіўляемся яго сталым назіранням над дыялектным тады яшчэ станам роднай мовы.

«Опыт краткого филологического наблюдения о белорусском наречии», паводле аўтарскай характарыстыкі, ахоплівае наступнае кола пытанняў: аб адметных рысах беларускай гаворкі, беларускія словы па алфавіту, беларускія прыказкі і некалькі беларускіх баек, народных анекдотаў і аповесцяў.

Са старонак рукапісаў І. Насовіч паўстае як патрыёт, сапраўдны абаронца беларускай мовы, яе права на пачэснае месца ў шматгалосым моўным свеце народаў. А гэта, трэба сказаць, было нялёгка ва ўмовах русіфікатарскай палітыкі ў беларускім краі, якая ў часы Насовіча набывала ці не найвастрэйшы за ўвесь час характар.

Пытанне аб вартасцях мовы, аб праве яе на існаванне І. Насовіч, як сапраўдны вучоны, заклікае вырашыць навуковым шляхам: «...каб прадставіць Рускаму свету надзейнейшыя звесткі аб усіх рэзкіх адхіленнях Беларускай гаворкі ад роднага свайго ўлоння, патрэбны не паверхневыя погляды на нястройнасць гукаў яго, але дакладныя ўказанні адрозненняў як у гуках саміх па сабе, так і ў самім складзе слоў».

У Насовіча мы можа ўпершыню сустракаем абгрунтаванне беларускай мовы «як кутка забытай славяншчыны», «якая ў большай, здаецца, меры збыткуе рэшткамі славянізма, чым іншыя славянскія галіны».

Цэнтральную частку займаюць ягоныя назіранні над фанетычным ладам беларускай мовы, яе асаблівасцямі. Ён ці не ў ліку першых адзначае наяўнасць у беларускай мове сістэмы акання, якання, дзекання, цекання, прыстаўных зычных, пераходаў в—ў, л—ў, ж — дж і іншае.

Сёння гэтыя асаблівасці беларускай мовы — агульнанавуковы здабытак. І мы ўжо забываем, як нялёгка ўпершыню вылучыць моўныя заканамернасці, кваліфікаваць іх, даць навуковае абгрунтаванне, бо найбольш цяжка сказаць слова ў ліку першых.

У асобе І. Насовіча мы маем дапытлівага назіральніка над моўнай стыхіяй, якому ўдалося заўважыць такія адметнасці, у прыватнасці, характэрныя для магілёўскіх гаворак, якія пазней стануць у цэнтры пільнай увагі мовазнаўцаў.

Так, напрыклад, цікавая думка Насовіча аб тым, што гук «с» у карэнных словах, у пазіцыі перад адным з зычных «б, л, м, н, п, с, ц», з наступнай мяккай галоснай сам памякчаецца (сьвет, сьнег). Мовазнаўца адзначае як асаблівасць наяўнасць з'явы фанетычнага падаўжэння пры суседстве гукаў «т» і «ч» (отчим — войччым, отче — войчча). Падкрэслівае, што ў сярэдзіне простых слоў «ць» перад літараю «б» замяняецца на «дзь» (маладзьба, свадзьба).

Праблемы, якія ўзнімае Насовіч, патрабуюць дадатковага вывучэння. А фактычна яны прысутнічаюць у скрытай граматыцы, якая пакуль яшчэ нясмела распрацоўваецца нашымі паасобнымі мовазнаўцамі.

Увесь час разглядаючы беларускую мову ў параўнанні з рускай і іншымі славянскімі, І. Насовіч на аснове вылучаных асаблівасцей выказвае думку аб адметнай артыкуляцыйнай базе беларускай мовы. «Гаворка гэтая, — піша ён, — мае якуюсьці ўласцівую аднаму беларускаму маўленню манеру расцягваць слова».

Вучоны заканчвае свае нататкі назіраннямі над беларускай лексікай, дзе Насовіч-лексікограф адчувае сябе як у сваёй вотчыне. Асаблівую цікавасць уяўляюць яго думкі аб багатай славянскай аснове карэннай беларускай лексікі.

І сапраўднай навуковай знаходкай з'яўляюцца меркаванні Насовіча аб асаблівай пашыранасці ў беларускай мове кола гука- і пачуццепераймальных слоў.

Гэтыя палажэнні не грэх было б увесці ў сучасны навуковы ўжытак.

Дасюль мы ведалі І. Насовіча як лексікографа. Цяпер, з адшуканнем яго граматычных нататкаў, ён паўстае ў постаці вучонага шырокіх лінгвістычных памкненняў.

Адчуваецца нейкая папярэдняя традыцыя, на якую абапіраўся ў сваёй мовазнаўчай працы І. Насовіч. У першую чаргу, гэта, бясспрэчна, «Літоўская граматыка» і «Слоўнік беларускай мовы», зробленыя С. Богуш-Сестранцэвічам. Паводле бібліяграфічных нататкаў І. Насовіча «Успаміны майго жыцця», яго мовазнаўчыя інтарэсы акрэсліліся ў 60 гадоў, пасля наведвання дома С. Богуш-Сестранцэвіча ў Маляцічах на Магілёўшчыне, дзе яму, відаць, сваякі нябожчыка параілі заняцца «беларушчынай». Там, напэўна, І. Насовіч мог пазнаёміцца, як выцякае з сітуацыі, з выдатнай мовазнаўчай спадчынай свайго земляка.

**Алена ЯСКЕВІЧ.**



**Народнай самадзейнай студыі выяўленчага мастацтва гомельскага Палаца піянераў і школьнікаў імя У. І. Леніна спаўняецца дваццаць пяць гадоў. Узначальвае яе заслужаны настаўнік БССР мастак Валянцін Пакаташкін, які прысвяціў сябе выхаванню ў дзецях пачуцця прыгожага. Больш за сто дваццаць дзяцей, пачынаючы з пяцігадовага ўзросту, займаюцца ў Валянціна Пятровіча. І ў кожным ён умее знайсці здольнасць да малюнка, развіць індывідуальнасць юных мастакоў. Для многіх з іх заняткі ў студыі — гэта пачатак шляху да прафесійнага мастацтва. Каля пяцісот былых студыйцаў сталі мастакамі, архітэктарамі, керамістамі, скульптарамі. Работы гомельскіх дзяцей экспанаваліся ва ўсіх сацыялістычных краінах, а таксама ў Індыі, ЗША, Японіі.**
**НА ЗДЫМКАХ: навучэнцы студыі на эцюдах.**

**Тэкст і фота Я. КАЗЮЛІ.**

## ПАЧАТАК ІТАЛА-БЕЛАРУСКІХ ЛІТАРАТУРНЫХ СУВЯЗЕЙ

# КАПРЫ

Назва гэтага італьянскага экзатычнага вострава, дзе «паветра, як сырадой... і прырода, як Шапэнава музыка», уваходзіць у свядомасць беларусаў не з падручнікаў па геаграфіі. Яна прыходзіць да нас з жыццяпісу Максіма Горкага, з расказаў і успамінаў колішняга гарадзілаўскага настаўніка, блізкага знаёмага і сябра Янкі Купалы — Андрэя Посаха.

Менавіта праз гэтых людзей беларусы, пачынаючы з 1910 года, сталі часта згадваць у сваіх размовах назву далёкага вострава. Прычыну гэтай зацікаўленасці беларусаў італьянскім востравам мы ведаем. Тут вялікі пралетарскі пісьменнік упершыню пачуў пра нашага Янку Купалу, адкрыў для сябе новага, дагэтуль невядомага паэта...

Прачытаныя на Капры беларускім настаўнікам Посахам Купалавы вершы, як мы ведаем, да глыбіні душы ўзрушылі буравесніка рэвалюцыі. Для нас вельмі важна, што Купалавы вершы гучалі ў арыгінале, па-беларуску.

Мусіць, упершыню тады італьянская зямля пачула беларускае слова. А Андрэй Посах пастараўся перадаць Максіму Горкаму і іншым прысутным тут не толькі змест Купалавых твораў, але іх моўнае гучанне.

Рэхам несліся са скалістага вострава магутныя Купалавы словы:

**А хто там ідзе, а хто там ідзе**
**У агромністай такой грамадзе!**
**— Беларусы.**

У 1910 годзе яшчэ не раз беларускае слова будзе гучаць на Капры. Максім Горкі, як вядома, менавіта тут возьмецца за пераклад верша «А хто там ідзе?». Тут жа, на Капры, Максім Горкі пазнаёміцца і з Купалавай «Адвечнай песняй».

Памятае Капры і беларускую газету «Наша Ніва», якая з далёкай Вільні прабівалася да Максіма Горкага. Пэўна, ён чытаў яе не адзін, паказваў яе іншым, расказваў пра беларусаў.

На Капры Максім Горкі прасіў прыслаць і слоўнік Насовіча, а таксама кнігі Доўнар-Запольскага, Марцінкевіча, «Тараса на Парнасе». Хацелася яму мець і нашы песні. На жаль, гэтую просьбу Горкага дзеячы «Нашай Нівы» не маглі выканаць: грамзапісаў з беларускімі песнямі тады яшчэ не існавала.

Праз шмат гадоў італьянцы зацікавяцца беларусамі, іх літаратурай. Купалаў голас дойдзе да італьянскіх літаратараў. Яны перакладуць славутую Купалаву песню на італьянскую мову, назавуць яе творам «рэвалюцыйна-патрыятычнага характару», у якім гучыць «упэўненасць у сілах народа, які ўвесь прыйшоў у рух».

...Неспакойны неапалітанскі заліў штодня лашчыць сваімі пеністымі хвалямі востраў, густа забудаваны віламі.

Адна з іх, чырвоная, высока ўзнялася на скалістым левым беразе. Да гэтага экзатычнага замка з невялікімі квадратнымі вокнамі вядзе крутая звілістая лесвіца, выбітая ў скале, з шматлікімі прыступкамі і парэнчамі. Менавіта тут жыў Максім Горкі.

Цяпер у доміку невялікі гатэль. У адным з пакойчыкаў пісьмовы стол. Гэта той самы стол, за якім вялікі пралетарскі пісьменнік перакладаў Купалаў шэдэўр на велікарускую мову, думаў і дбаў з гэтага далёкага заморскага краю пра лёс нашага народа, нашай культуры, вітаў яе новыя праявы, заклікаў усіх сумленных людзей звярнуць увагу на працу людзей, што згуртаваліся вакол газеты «Наша Ніва»», газеты, якая шмат цікавага скажа чытачу. За гэтым жа сталом ён напісаў і вядомыя лісты да М. Кацюбінскага і А. Чарэмнага пра Янку Купалу і Якуба Коласа. Тут жа з'явіўся і славуты артыкул «Аб пісьменніках-самавуках», які ў 1911 годзе быў надрукаваны ў часопісе «Современный мир». Заўважым: такая цікавасць М. Горкага да беларускай тэмы праявілася неўзабаве пасля яго другой сустрэчы тут з У. І. Леніным у ліпені 1910 года, а перад гэтым, за які месяц, нагадаем, М. Горкі сустракаўся з настаўнікам А. Посахам.

Капры — геаграфічна далёкі ад Беларусі італьянскі востраў, але ён заўсёды блізкі сэрцу беларусаў. Менавіта на ім Максім Горкі адчуў імкненне беларусаў «людзьмі звацца». Тут жа, праз Максіма Горкага, закладваўся падмурак новых руска-беларускіх, а магчыма, і італа-беларускіх літаратурных сувязей.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

# КРАКАЎСКАЯ СЕСІЯ

На некалькі дзён у лютым Кракаў стаў месцам жыхарства цэлай групы беларускіх літаратуразнаўцаў і мовавердаў. Тут, у Ягелонскім універсітэце, прайшла першая навуковая сесія «Польска-беларускія літаратурныя сувязі», арганізаваная Інстытутам польскай філалогіі і Беларускім дзяржаўным універсітэтам імя У. І. Леніна.

На першым пасяджэнні з дакладамі выступілі загадчык кафедры беларускай літаратуры БДУ імя У. І. Леніна прафесар А. Лойка (даклад на тэму «Ф. Скарына— дзеяч Адраджэння»), доктар Ягелонскага універсітэта М. Татара («Чаго чакае гісторык польскай літаратуры ад гісторыка беларускай літаратуры»), дацэнт БДУ У. Кароткі («Рэлігійна-палемічная літаратура на Беларусі ў XVII ст.»). З цікавасцю былі ўспрыняты даклады і іншых удзельнікаў сессіі. Ад БДУ імя У. І. Леніна выступілі: выкладчыца Л. Ламека («Пан Тадэвуш» А. Міцкевіча — «Новая зямля» К. Міцкевіча (Я. Коласа)»), выкладчык В. Каратай («Сучасная філасофская паэма ў беларускай літаратуры»), дацэнт Л. Тарасюк («Я. Купала — народны паэт Беларусі»), прафесар Д. Бугаёў («Беларуская літаратура ў кантэксце сталінскіх рэпрэсій»), дацэнт М. Прыгодзіч («Беларуска-польскія моўныя кантакты: здабыткі і перспектывы»). Былі абмеркаваны даклады дактароў Ягелонскага універсітэта К. Важнякоўскага («Польскае літаратурнае асяроддзе ў Савецкай Беларусі ў 1919—1989 гг»), А. Раманоўскага («Польскае нацыянальнае адраджэнне ў Беларусі пасля 1905 г.»).

**Р. МІКАЛАЕНЯ.**

## ВЫПУШЧАНА БЕЛАРУСКІМІ ВЫДАВЕЦТВАМІ

За два апошнія гады ў выдавецтве «Беларусь» выйшлі фотаальбомы, прысвечаныя беларускім гарадам: «Гомель» (1986), «Бабруйск» (1987), «Маладзечна» (1988), «Жлобін» (1988). Альбомы — як зрэзы сённяшняга жыцця горада, як фотасправаздачы аб дасягнутых поспехах. І можа быць, таму што напрамкі жыццядзейнасці аднолькавыя ў кожным горадзе, усе гарады ўспрымаюцца з фатаграфій гэтых альбомаў падобнымі адзін да аднаго, цяжка адрозніць манеру выканання работ фотамайстроў — аўтараў альбомаў.

Калі фотакарэспандэнт Георгій Ліхтаровіч вырашыў расказаць пра Гродна, яму быў прапанаваны складзены гродзенцамі і адобраны актывам горада кадраплан. «Але ў Гродна, — гаворыць Г. Ліхтаровіч, — свая асобая душа. Час пакінуў у яго замчышчах і касцёлах, старажытных пабудовах і брукаванках свой рытм, мелодыю і колер... Я хацеў паказаць горад такім, якім я яго ўспрымаю».

На старонках «Гродна» — старыя вуліцы з невялікімі панадворкамі, кожны з якіх нібыта музейны экспанат, архітэктурныя ансамблі XVI—XVIII стагоддзяў, грамадзянскія пабудовы больш позняга часу... Вось Барысаглебская (Каложская) царква — цуд XII стагоддзя, гонар беларускай зямлі. У яе сцены, складзеныя з рознакаляровых валуноў, устаўлены ромбы, квадраты, крыжы з маёлікі. І калі на досвітку сонца лашчыць сцены, здаецца, што ў гісторыі сваё асаблівае свячэнне. Гэта свячэнне — і ў панарамных здымках, на якіх у вячэрнім змроку праступаюць па лукавіне Нёмана будынкі старога замка князя Вітаўта, славутых касцёлаў... І як звяно ў няспынным жыццёвым ланцугу — яркія здымкі з будзённага жыцця гараджан... Але тут жа — фатаграфіі, на якіх асноўны герой — абсталяванне цэха ці сцены новага прадпрыемства... Не ўсё з таго, што задумваў і што хацеў зрабіць Г. Ліхтаровіч, увайшло ў канчатковы варыянт выдання... І ўсё-такі ў сюжэце, у арыгінальным ракурсе, колеравым спалучэнні многіх здымкаў — душа горада, якую сумеў убачыць і перадаць аўтар. Альбом «Гродна» выпушчаны выдавецтвам «Беларусь» на беларускай і рускай мовах.




Ларыса ЭТЭНКА.

## ЯШЧЭ АДНА РЭЛІКВІЯ МУЗЕЯ ДЗЯРЖЫНСКАГА



Новая рэліквія папоўніла музей Дзяржынскага ў Івянцы. Гэта сямейны альбом Дзяржынскіх, след якога згубіўся ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Перадаў яго музею вядомы беларускі гісторык прафесар А. Хацкевіч, які многія гады вывучае ўсё, што звязана з жыццём і дзейнасцю аднаго з бліжэйшых саратнікаў Уладзіміра Ільіча Леніна — Фелікса Дзяржынскага. У альбоме — 59 адзіночных і групавых фатаграфій, узрост многіх з іх — больш за сто гадоў. На некаторых адлюстраваны юны Фелікс, яго сёстры і браты, бацькі, сваякі. Вялікая і геаграфія фатаграфій: гэта Вільнюс і Пецярбург, Масква і Варшава, іншыя гарады.

НА ЗДЫМКАХ: прафесар Аляксандр ХАЦКЕВІЧ; у мемарыяльным музеі Ф. Дзяржынскага ў Івянцы. Супрацоўнікі музея знаёмяцца з калекцыяй фатаграфій з альбома Дзяржынскіх; старонка з альбома сям'і Дзяржынскіх.

Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.





## РАСКАЗАЛА ЗНАХОДКА

# МАЛЕНЬКАЕ АПАВЯДАННЕ ПРА МАЛЫЯ ВАГІ

Дакладней было б казаць «пра вагі для малых узважванняў са складнымі каромысламі», як іх называюць спецыялісты-археолагі. Зараз такіх ужо ніхто не ўжывае, яны вельмі старажытныя. Вагі знойдзены ў беларускім горадзе Лідзе ў 1986 годзе, падчас археалагічнай экспедыцыі аб'яднання «Белрэстаўрацыя», якой кіраваў археолаг Алесь Краўцэвіч. Да канцоў каромыслаў павінны былі падвешвацца шалі, але яны не захаваліся. Няма нічога дзіўнага ў тым, што шалі адсутнічаюць, бо не менш як 900 гадоў ляжалі вагі ў зямлі, на якой было актыўнае гаспадарчае жыццё, якая час ад часу перакопвалася пры будаўніцтве, перакідвалася. Вось і згубіліся недзе шалі.

Цікава, што знаходзяць часцей менавіта шалі, можа, таму, што яны большыя за каромысел, іх лягчэй заўважыць. Але, калі лічыць нават разам знаходкі каромыслаў і шаляў, то ўсё роўна вагаў знойдзена няшмат — трохі больш чым сотня за сто гадоў на тэрыторыі нашай краіны, а ў Беларусі і зусім мала — на пальцах адной рукі можна пераліч[illegible] Да нашых часоў не д[illegible]лі аніводныя вагі з Беларусі, а зараз такі ўдалы выпадак: можна сваімі вачыма паглядзець, як яны зроблены.

Вагі вельмі падобныя да зв[illegible]айных «аптэкарскіх» п[illegible] мерах, але адзін рух — [illegible] вось яны ўжо ў два разы меншыя. У даўжыню — як пушка запалак. Такія складныя вагі вельмі зручна было насіць з сабой. Знаходзілі нават спецыяльныя чахлы з дрэва, скуры, металу, у якіх трымалі каромысел з правіламі і вушакамі, шалі, гіркі.

Калісьці на тэрыторыі ўсёй Еўропы былі ў абарачэнні сярэбраныя арабскія манеты, якія біліся ў магутнай дзяржаве сярэднявечча — Арабскім халіфаце. Манетныя двары халіфата былі і ў Азіі, і ў Афрыцы, асноўная частка іх прадукцыі ішла «на экспарт», за межы халіфата. У IX—X стагоддзях амаль уся Еўропа выкарыстоўвала арабскія дырхемы. Цікава, што малыя вагі ў Еўропе сустракаюцца ў тых жа мясцінах, дзе знаходзяць скарбы арабскіх манет. Лёгка прыйсці да высновы, што нашы складныя вагі выкарыстоўваліся пры разліках гэтымі манетамі. Але што цікава: партатыўныя вагі, як высветлілі археолагі, з'явіліся значна пазней за дырхемы, гэтая складаная прылада вядомая толькі з другой паловы X стагоддзя. У чым тут справа? Вучоныя мяркуюць, што гэта звязана са змяншэннем колькасці серабра ў манетах. На рынку ў гэты час апынуліся дырхемы розных вагавых норм, таму на лік прымаць іх было нельга, вось і з'явіліся для гэтай справы складныя двухшалявыя вагі.

Можа быць, такая канструкцыя прылады для ўзважвання дайшла б і да нашых часоў і мы карысталіся б ёю, але здарылася нечаканае: раптам збяднелі сярэбраныя капальні халіфата, струмень дырхема спыніўся. На яго месца на кароткі час прыйшоў заходнееўрапейскі дынарый, але малыя руднікі Заходняй Еўропы не маглі задаволіць патрэбы яшчэ і славянскага свету. Манета знікла, наступіў безманетны перыяд, а разам з манетамі зніклі і кішэнныя вагі.

Лідская знаходка — цікавы помнік тэхнічнай думкі нашых далёкіх продкаў. Трэба адзначыць, што па дакладнасці знойдзеныя вагі роўныя так званым аптэкарскім, эстэтычнае выкананне нават пераўвышае падобныя сучасныя прыстасаванні для малых узважванняў.

**КАРОТКАЯ ДАВЕДКА:**

Калі зазірнуць у беларуска-рускі слоўнік для сярэдняй школы ці звярнуцца да яго старэйшага брата — двухтомнага слоўніка энцыклапедычнага выдавецтва, то можна даведацца, што, па-першае, вагі — гэта шалі, а па-другое, іх дэталі, місачкі, на якіх важаць, таксама называюцца шалямі. Гэта вельмі нязручна, і цяжка паверыць, што так і павінна быць. Але стары «Словарь белорусского наречия» І. Насовіча (1870) дае нават слова шалічкі, якім акрэсліваецца маленькая прылада для ўзважвання.

Атрымліваецца, што шалі-місачкі далі назву шалям-вагам. Можа, недзе на Беларусі так часам і казалі, але зараз шалі ў сэнсе вагі—слова больш слоўнікавае, чым жывое. У мовах, блізкіх да беларускай ці з якіх маглі быць запазычаны цікавыя нам словы, шалі — гэта шалі, а вагі — гэта вагі. Выкарыстоўваюцца названыя тэрміны ў славацкай, чэшскай, польскай, нямецкай мовах. Па-чэшску нават кажуць «шалэк на каву», што азначае філіжанка, шклянка, кубачак для кавы. А слова «вагі» блізкае да слова вагацца (хістацца, гойдацца, быць у стане нясталай раўнавагі), што адпавядае прынцыпу дзеяння гэтага прыстасавання. Таму ўсё ж больш слушна будзе каромыслы з шалямі зваць вагамі, а місачкі вагаў — шалямі.

Іван СІНЧУК.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**НАШ АДРАС:**

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 300